Цана асобнага нумару 20 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 1 (148) Вільня, Нядзеля 1 Студзеня 1928 г. Год IV

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Зямля сялянству бяз выкупу!

АДРЭС РЭДАКЦЫІ І АДМІНІСТРАЦЫІ:
Вільня, Вострабрамская вул. № 8, кв. 1.
(Wilno, ulica Ostrobramska Nr. 8, m. 1).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадз. апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12-ай да 2-ой гадзіны.

Орган Беларускага Сялянскага Саюзу.
Беларуская палітычная, грамадзкая, літэратурная і гаспадарчая газэта.
— ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ. —

ПАДПІСКА:
На адзін месяц — 1 злоты, на тры месяцы — 2 зл., на шэсьць месяцау — 4 зл., на год — 8 зл.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.

## З НОВЫМ ГОДАМ, З НОВЫМ ШЧАСЬЦЕМ!

## Водгукі пачуцьця.

З Новым Годам!

Сёньня, калі наша плянэта Зямля закончыла свой зварот каля Сонца, што называецца годам і распачынае новы ход, а гэтым і год, мы вітаем Беларускае Грамадзянства і жадаем з Новым Годам новага шчасьця і лепшае долі!

Вітаючы Вас з Новым Годам, нас ахапляе пачуцьцё, якое нельга, бо няма спосабу, ані выказаць ані выявіць: пачуцьцё болю і надзеі. Ахапляе нас боль таму, што Беларускі Народ у балючым палажэньні і зьяўляецца надзея дзеля таго, што веручы ў жывыя і творчыя сілы Беларускага Народу мы верым, што барацьбою і змаганьнем за лепшае — Беларускі працоўны Народ зломіць бяду, пераможа гора і ліха і направіць сваё жыцьцё гэтак, якім яно павінна, якім яно мусіць быць.

Мімавольна, у сілу гэтага пачуцьця, пераносіцца думка ў сялянскую хату. У той куток—дзе брат гаруе! І запраўды гаруе, бо можа ня мае нават кавалка чорнага хлеба! Дзе і ў чым прычына гэтага?

Кожны з нас меў і мае магчымасьць зазнаёміцца з адным вельмі характэрным і журботным зьявішчам. Гледзячы на шырокі Божы сьвет і на разлеглыя прасторы Зямелькі-Маці мы бачым: вузенькія, як крок ступіць, палосачкі і вялікія, як акінуць вокам, абшары. Што гэта? Гэта — пагвалчэньне законаў прыроды, гэта—сацыяльная несправядлівасьць у чалавечым сужыцьці, гэта—адзнака панаваньня чалавека над чалавекам. І вось, вітаючы з Новым Годам, мы жадаем усю тую несправядлівасьць адхіліць, каб на яе месца запанавала сьвятая праўда і каб замест пагвалчэньня законаў прыроды—запанавала іх права.

Ставячы гэтыя лёзунгі, дэвізам нашага змаганьня—мы заклікаем пад сьцяг барацьбы ўвесь Беларускі Народ, бо толькі тагды, калі будзе ў нас арганізацыя, якая безумоўна зьяўляецца—сілай, дык будзе і перамога!

Ад беларускай паасобнай хаты мы пераходзім агулам да беларускай вёскі.

Будынкі на „курыных ножках“, каля якіх вецер у зімовую і васеньнюю пору пяе жалобнымі гукамі панурую песьню, кладуць на сэрца сум і тугу. Але-ж, акрамя гэтага даюць зразумець і нешта іншае. Даюць зразумець, што над беларускаю вёскаю, як чорная мара, пануе галіта і бядота. А чаму? Ды таму, што на прасторах Беларусі бачым: вузенькія, як крок ступіць, палосачкі і вялікія, як акінуць вокам, абшары!

На прасторах Беларусі мы можам заўважыць і яшчэ нешта: часта і густа пападаюць нашаму воку—ня вёскі і не абшарніцкія двары, а паасобныя—асады. Што гэта? Гэта вынікі паваеннага часу. Але-ж гэтыя вынікі малююць чорныя пэрспэктывы, яны гавораць, што вялікія, як акінуць вокам, абшары, драбнейшымі кавалкамі часткамі ўжо папалі пераважна ў неналежныя рукі. А гэта таксама несправядлівасьць і крыўда, ці-ж ня можа ня трывожыць нашага пачуцьця?!

Калі зашла гутарка аб крыўдзе, дык нельга абмінуць і яшчэ аднэй— нацыянальнага бясправўя. Беларускай школы, ня гледзячы на тое, што мы яе жадаем і дамагаемся, аб гэтым сьведчаць паданыя, болей як на 1000 школаў, дэкляраціі, мы ня маем. Нашае вучыцельства і працоўная інтэлігенцыя, якая тым ці іншым спосабам здабыла сабе веду, ня мае месца прылажыць гэтую веду да працы; наша інтэлігенцыя разам з агулам народу перажывае нядолю і бядоту. Вучыцельствуюць і ўрадуюць налётныя элементы, якія нічога супольнага з нашым народам ня маюць.

Распачынаючы Новы Год і вітаючы Беларускі Народ з Новы Годам, мы падзяліліся з масамі нашымі водгукамі пачуцьця дзеля таго, каб кожны Беларус уясьніў сабе прычыны сваей гаротнасьці, гэтым самым зрабіў адпаведныя вывады.

Гэтыя водгукі пачуцьця зьяўляюцца напамінаньнем і то балючым напамінаньнем.

Але-ж гэтае напамінаньне павінна што-раз больш кіраваць нас на сапраўдны шлях, ідучы якім мы зможам вызваліцца з галіты і нядолі.

Дык з Новым Годам!...
З Новым Шчасьцем!...

*Скарга.*

* * *

Як кіну вокам — у высь да неба
І як зірну я да ясных зораў,
Дык гінуць сумы і жах... Як трэба
**Надзея ўсходзіць бяз жорсткіх змораў.**
Тагды я думку ў бязкрайнасьць сьвету
Пускаю сьмела... хай усюды ходзіць,
Хай ўсьцяж шукае запраўды мэту,
Якая ў сьвеце ўвесь лад наводзіць.
За ею йду я на поле тое, —
Куды, як сьцежка—мой шлях змаганьня
Ідзе, каб сковы бяды людзкое
Парваць і збурыць умах да—званьня.
Каб быць тым мог я
чым ёсьць — свабодны,
Я ўжо магутны! — У аковах сьцюжы
Я веру моцна... **ў краіне роднай**
**З людзкіх лятункаў паўстануць ружы**
Я веру ў гэта, бо гэтак у небе
Казалі зоры, як кінуў вокам,
І гэтак будзе, бо гэтак трэба...
**Ня вечна будзем пад шэрым змрокам!**

*Скарга.*

## Аб прадвыбарным часе і выбарным законе.

Наканец настала хвіліна сьмерці Сойму і Сэнату, хвіліна прадвыбарнай гарачкі, барацьбы за пасольскія і сэнатарскія мандаты, хвіліна дэмагагічных абяцанак з боку розных агітатараў даючых салодкімі славамі і зямлю, і волю, і ўсе грамадзкія, нацыянальныя, сацыяльныя і палітычныя правы народу. Пэўна ня хопіць у выбаршчыкаў сілы і энэргіі, каб здалець выслухаць усе прамовы ўсялякага гатунку прамоўцаў! Кожны з агітатараў будзе старацца пераканаць людзей па свойму і прыгарнуць на свой бок.

Ясна, што выбаршчыкі, гэта маса, якую часамі якому-колечы дэмагогу ўдаецца ўзбаламуціць каб лягчэй хапіць на вудачку закінутую ў мутную ваду. У нас на Беларусі ізноў паявяцца хлебадаўцы „вызваленцы“ пэпээсоўцы, людзі з партыі працы і таму падобныя розных калёраў „карміцелі“.

Няможна ня ўспомніць і таго, што нават акрамя агітатараў знайдуцца людзі, няшкадуючыя прылажыць сваіх рук, каб пайсьці на нясправедлівасьць пры выкананьні імі абавязкаў, звязаных з выбарнай кампаніяй. Не адзін голас нясьвядомага выбаршчыка прападзе за нішто, бо гэты выбаршчык нават, незалежна ад сваей волі, ня будзе мець магчымасьці аддаць яго. Іншы выбаршчык таксама-ж праз сваю нясьведамасьць аддасьць голас не за той сьпісак або партыю, каторая мае па мэце шчыра бараніць яго правы. Не адзін выбаршчык аддаць можа абмылкова свой голас за тую партыю ці за тую асобу, якая імкнецца з растаўленымі вострымі кагцямі, да пагвалчэньня правоў чалавека, да ўтрыманьня ў руках абшарнікаў зямлі, належачай працоўнаму народу. Не адзін выбаршчык без усякага на гэта права, ня будзе допушчаны да аддачы свайго голасу, а будуць і такія выпадкі, што нямаючы права голасу, будзе галасаваць. Усё магчыма, усё можа быць і наперад трэба прадбачыць. Мы зьяўляемся сьведкамі выбараў у 1922 г. Падобных выпадкаў было можа тысячы.

Як ня прыкра, аднак мушу сказаць, што пасярод сялян Беларусаў ёсьць многа нясьведамых. Я лічу, што вышэй указаныя выпадкі будуць дзеяцца пераважна пасярод Беларускага сялянства. Гэта дзеля таго, што Беларусаў будуць і страшыць і грэзіць ім ня выключаючы рэпрэсіяў, памінаючы тыя правы, якія ім належаць паводле Канстытуцыі і выбарнага права. Цяперашнія выбары маюць вялізарнае значэньне асабліва для Беларускіх працоўных гушчаў. У прошлым Сойме Беларускае сялянства саўсім мала мела сваіх прадстаўнікоў, каторыя, з прычыны малога ліку іх, ня мелі магчымасьці бараніць інтарэсы Беларускага сялянскага Народу.

Пры цяперашніх выбарах трэба натужыць усе сілы, каб ні адзін голас селяніна Беларуса ня зьгінуў, каб быў аддадзены за той сьпісак, у склад каторага будуць уваходзіць Беларускія партыі з праўдзівай Беларускай ідэалёгіяй. Чым болей, мы сяляне-Беларусы, будзем мець у Сойме і Сэнаце сваіх прадстаўнікоў, шчырых і праўдзівых барацьбітоў за правы сялянскага Народу, тым лягчэй нам будзе здабываць кусок хоць чорнага хлеба. Толькі тагды можна чакаць палепшаньня, калі верныя Сыны Бацькаўшчыны Беларусі ў большым ліку будуць мець магчымасьць весьці барацьбу за нацыянальныя, сацыяльныя, палітычныя і грамадзкія правы паднявольнага Беларускага Народу. Беларусы, як я вышэй сказаў, хоць яшчэ ня саўсім сьвядомыя, аднак мне хочыцца верыць, што пры цяперашніх выбарах усе, як адзін, уступяць у барацьбу са сваей горкай доляй.

Пішучы гэтую стацьцю маю на мэце, у сілу неабходнасьці і ў меру магчымасьці, пазнаёміць Беларускае сялянства з галоўнымі правіламі істнуючага ў Польшчы выбарнага закону, дзеля таго, каб кожны ведаў аб гэтым праве ў прадвыбарным часе.

Галоўныя правілы выбарнага закону ёсьць такія:

Для выбіраньня паслоў у Сойм мае права кожны грамадзянін або грамадзянка, каторыя ў дзень агалашэньня выбараў у „Dzienniku Ustaw“ маюць поўных 21 год. Кожны выбаршчык мае права галасаваць толькі ў тым вокругу (obwodzie), у каторым пражывае хоць адзін дзень да дня абвешчаньня выбараў.

Есьць такія грамадзяне, каторыя паводле уставы аб выбарным законе, пазбаўленыя права прыняцьця ўчасьця ў галасаваньні. Гэта тыя, якія былі караны вастрогам па судовым прыгаворам з пазбаўленьнем або абмяжаваньнем грамадзянскіх правоў. Разумеецца, што гэта не адносіцца да тых, якія адбывалі які-колечы арышт.

Па абвешчаньні выбараў, валасныя ўлады, пры помачы вясковых старастаў (солтысаў), або іх заступнікаў, будуць рабіць сьпіскі выбаршчыкаў. І вось, такі солтыс (калі яшчэ паляк) ведаючы, што які-колечы Янка або Юрка быў караны (якіх у нас ёсьць шмат), за нявыбяленьне коміну, дык можа няўпісаць такога грамадзяніна ў сьпісак, а значыцца такому, хто ня будзе ўпісаны ў сьпісак выбаршчыкаў, дык хаця і не пазбаўлены права голасу судом, абвадовая камісія не пазволіць аддаць свой голас у выбарную скрынку (урну). Такім чынам такога выбаршчыка голас загіне. Пры сьпісываньні выбаршчыкаў трэба дбаць, каб уся сям'я, пачынаючы ад 21 году, была запісана ў сьпісак. Кожны выбаршчык маючы які-нібудзь сумліў, каб пераканацца ці запісаны ён ці не, павінен зьвярнуцца ў абвадовую камісію і спраўдзіць. Гэта можна будзе зрабіць у працягу 2-х тыдняў, ад 2 да 15 студзеня гэтага 1928 г.

Сьпісак павінен ляжаць на стале ў памешканьні камісіі, які кожны выбаршчык мае права праглядаць.

Калі выбаршчык ня знойдзе ў сьпіску сябе, ці каго-колячы са сваей сям'і або знаёмых, дык мае права трэбаваць каб няўпісаныя асобы былі ўнесяныя ў сьпісак. Можа абвадовая камісія ня захоча гэтага зрабіць, дык тады трэба зараз-жа падаць жалабу ў Акружную Выбарную Камісію.

Падаваць заявы аб упісаньні ў сьпісак выбаршчыкаў можна ад 2 да 16 студзеня.

У часе галасаваньня выбаршчык павінен трымацца паважна: не нарушаць спакою, не агітаваць у памешканьні дзе ўрадуе камісія. Нарушаючых спакой, камісія мае права выдаліць. У часе галасаваньня не дазволена ані ў памешканьні камісіі, ані на вуліцы перад дзьвярыма памешканьня камісіі бліжэй як 100 мэтраў (50 сажан.), гаварыць прамову да людзей, раздаваць картачкі да галасаваньня ці ў які іншы спосаб агітаваць. Закон аб выбарах у кожнай камісіі павінен ляжаць на стале і хто хоча, мае права пераглядаць яго. Хто атрымае нумар ад прадстаўніка сваей партыі гатовы друкаваны, дык павінен трымаць яго заўсёды чыстым, не брудзіць ды нічога на ім ня пісаць. Інакш камісія пасьля галасаваньня прызнае яго за няважны. Хто ня будзе мець картачкі да галаваньня з гатовым друкаваным на ёй нумарам, той можа напісаць сабе на-

# Зьезд выбаршчыкаў,

**які быў скліканы Беларускім Цэнтральным Аб'яднаным Выбарным Камітэтам.**

28 сьнежня, толькі што мінулага году адбыўся ў Вільні Зьезд выбаршчыкаў скліканы Беларускім Цэнтральным Аб'яднаным Выбарным Камітэтам. Зьезд распачаўся роўна ў 11 гадз. Прысутных на Зьезьдзе было — дэлегатаў з правінцыі — 110, мясцовых — 28 і 9 сяброў самога Камітэту. Агульнаю лічбаю—з правам рашаючага голасу — было — 147 сяброў Зьезду. Акрамя таго было прысутнымі як гасьцей—47 асоб, з якіх — Літвіноў — 3, Жыдоў — 2 і 42 Беларусы. Былі прысутнымі: прадстаўнік ад паліцыі і ад камісара ўраду.

Зьезд выбаршчыкаў адчыніў Старшыня Камітэту б. пас. Ярэміч, які ў кароткіх словах прывітаў прысутных і запрапанаваў выбраць прэзыдыум Зьезду, у гэтакім складзе:

Старшыня — б. пас. Рагуля, віцэстаршынямі – гр. гр. Зянюк і Міцкевіч (родны брат беларускага народнага паэты — Якуба Коласа), і сэкрэтарамі — гр. гр. Сьвістун і Малец. Склад прэзыдыуму прынімаецца.

Заняўшы месца за прэзыдыяльным сталом, Старшыня б. пас. Рагуля, ад імя прэзыдыуму падзякаваў за выбраньне і перайшоў да парадку дня.

Распачаліся прывітаньні. Першым, ад імя жыдоўскага грамадзянства для прывітаньня беларускіх выбаршчыкаў узяў голас д-р Выгодзкі. У сваей прамове д-р Выгодзкі, паміж іншым, адзначыў вялікае значэньне і патрэбу супольнага выступленьня нацыянальных меншасьцяў пры выбарах, баронячыся гэтым ад тых крыўдаў, якія робіць нам (як Беларусам так і Жыдом) выбарны закон. Асаблівае значэньне д-р Выгодзкі прыдаў згодзе паміж Беларусамі і Жыдамі ў нашым краі, бо толькі гэтакім спосабам можна бараніць наш край. Пасьля д-ра Выгодзкага выступіў з прывітальнаю прамоваю прадстаўнік жыдоўскае дэмакрацыі, адвакат Чэрніхаў. У сваей прамове адв. Чэрніхаў, перадусім, адзначыў, што ў гістарычнай мінуўшчыне абставіны гэтак скла́ліся, што як Беларусы так і Жыды былі заўсёды ўціснымі дужымі гэтага сьвету. Асаблівую ўвагу адв. Чэрніхаў скіраваў натое, што ў сужыцьці паміж Беларусамі і Жыдамі ў мінулым, сьвет ня ведае праваў, якія называюцца „жыдоўскімі пагромамі". Жыдоўскіх пагромаў Беларусы ніколі не стварылі. Гэтая сьветлая мінуўшчына дазваляе думаць, што і ў будучыне будуць паміж гэтамі народамі такія-ж самыя добрыя адносіны, а такім спосабам можна надзеяцца, што запануе перамога над тымі крыўдамі, якія дазнавалі дагэтуль Беларусы і Жыды.

Прамоўцаў, паважаных жыдоўскіх дзеячаў д-ра Выгодзкага і адв. Чэрніхава прысутныя, як віталі, так і праводзілі з трыбуны громам воплескаў.

Пасьля гэтага, забраў голас для прывітаньня Зьезду прадстаўнік ад Літвіноў, вядомы літоўскі дзеяч, рэдактар газэты „Жыцьцё Люду" гр. Вялецкі, які ў сваёй прамове адзначыў, што ў папярэдніх выбарах, дзякуючы тагачасным палітычным абставінам, Літвіны не бралі ўдзелу, а дзеля гэтага ў польскім парляманце яны ня мелі сваіх прадстаўнікоў. Так што ў папярэднім Сойме інтарэсы і правы літоўскага народу ў Польшчы баранілі беларускія паслы, за што гр. Вялецкі ад імя літоўскага народу складае беларускім паслом шчырую падзяку. Пераходзячы да сучасных выбараў гр. Вялецкі сканстатаваў, што толькі блёкам нац. меншасьцяў можна рахаваць на перамогу Прысутныя падзякавалі за прамову, (гр. Вялецкі гаварыў пабеларуску) громам воплескаў.

На парадку дня працы Зьезду стаяў даклад аб працы Беларускага Посольскага Клюбу ў папярэднім Сойме і Сэнаце. Справаздачу аб гэтым зрабіў б. сэнатар Багдановіч.

Падрабязна і паасобна спыніўшыся на кожным пытаньні, п. Багдановіч абрысаваў працу б. Беларускага Пасольскага Клюбу, адзначаючы ўсе труднасьці і перашкоды ў працы. З гэтага дакладу прысутныя дазналі, што ня гледзячы на тое, што фармальна, у працягу нейкага часу, істнавалі два клюбы, іх праца фактычна праходзіла ў адным і тым самым кірунку, а гэта сьведчыць аб адналітасьці Беларускага Народу, які складаецца з сялянства, невялікаў лічбы, яшчэ мала ўсьвядамлёных нацыянальна, меставых работнікай і інтэлігенцыі, якая находзіцца, таксама, як увесь народ у цяжкім матэрыяльным палажэньні.

З таго дакладу мы дазналіся, што ўсе бяз ніякага вынятку, польскія партыі, якія часта розьніліся паглядамі ў польскіх справах, адносна Беларусаў, у мэтах так ці іначай абмежаваньня нашых правоў, заўсёды выступалі згодна. Так што беларускім паслом асталася толькі пратэставаць, каб такім спосабам заявіць усяму сьвету аб крыўдах чыняных пануючаю нацыяй Беларускаму народу.

Калі-ж у часе дакладу прамова даткнулася прысутнага на салі Зьезду пасла С. Барана, які прасядзеў некалькі гадоў у турме, як ахвяра Беларускага Народу ў яго змаганьні за свае правы, дык прысутныя на салі прывіталі б. пасла С. Барана гучнымі воплескамі і спагаднымі словамі. Гэта было запраўды цікавае і паважнае зьявішча, якое нельга апісаць словамі: прадстаўнікі Народу віталі свайго запрады нацыянальнага героя, змагара і мучаніка!

Падзякаваўшы гучнымі воплескамі б. сэнатару Багдановічу за даклад, была прынята рэзалюцыя, якую падаём ніжэй.

Наступны даклад аб выбарным Блёку Нацыянальных Меншасьцаў зрабіў б. пасол Ярэміч. Паважаны дакладчык падрабязна і дакладна растлумачыў выбарны закон, яго мэты, якія выяўляюцца ў тым, каб пазбавіць нацыянальныя меншасьці прадстаўніцтва. Але-ж бяда заўсёды змусіць найсьці выхад з цяжкага палажэньня. Вось гэтакім выхадам і ёсьць Выбарны Блёк Нацыянальных Меншасьцяў, які, ня гледзячы на алярмы і пагрозы польскае пресы ўсё-ж такі стварыўся. Пав. дакладчык у сваей прамове адзначыў так-жа адносіны польскіх урадаў да беларускага прадстаўніцтва, а гэтым самым і да ўсяго нашага народу. Каб схарактэрызаваць тыя адносіны, п. Ярэміч прывёў прыклад. Як ужо ведама наша парляманцкае прадстаўніцтва, у працягу нейкага часу падтрымоўвала ўрад ген. Сікорскага. Ген. Сікорскі як прэм'ер-галава тагачаснага польскага ўраду запэўніў беларускіх паслоў, што ўсё тое, што належыцца Беларусам, будзе дана. Беларускія паслы маючы на мэце адчыненьне беларускага банку, зьвярнуліся за дазволам да міністра фінансаў. Міністар фінансаў ня гледзячы на доказы, што гэтая справа прынцыпова вырашана прыхільна панам прэм'ерам, у выдачы патрэбнага дазволу, адмовіў, вымагаючы прыказу ад прэм'ера на паперы. І праўда прэм'ер ахвотна даў прыказ міністру фінансаў, але-ж міністар прыказу свайго кіраўніка не выканаў, паклаўшыся на некаторыя патрэбныя яму на гэта ўставы і законы. Дзеля гэтага, бачачы, што нічога ня будзе з такой згоды паміж урадам і беларускім прадстаўніцтвам, апошняе на чале з тагачасным старшынёй паслом Тарашкевічам перашло да ўраду ў апазыцыю, якая і трымалася ўвесь час істнаваньня Сойму.

Пасьля дакладу б. пасла Ярэміча распачалася дыскусія. Выступалі з прамовамі гр.гр. Аршун, Юхневіч, Матусэвіч, Карэцкі, Аніськовіч (усе з правінцыі). У сваіх прамовах прадстаўнікі віталі сялянскіх паслоў Ярэміча і Рагулю, (што выклікала на іх чэсьць гучныя воплескі ўсіх прысутных), віталі блёк нацыянальных меншасьцяў і выказвалі пажаданьне да аб'яднаньня з тым беларускім адламам, які групіруецца каля газ. „Права Працы". Адзін з прамоўцаў сказаў, што трэба, яшчэ раз у імя Зьезду запрапанаваць ім увайсьці ў агульны блёк і калі яны адмовяцца, дык тагды будзем трактаваць іх, як здраднікаў беларускай нацыянальнай ідэі.

Даклад аб выбарнай платформе рабілі б. пас. Рагуля і гр. Каруза. Плятформа зацьвердж. Зьездам будзе зьмешчана ў наст. нумары. Пры гэтым цікава адзначыць той падход да зямельнага пытаньня, які выразіўся ў дакладзе б. пасла Рагулі. Пав. дакладчык адзначыў, што змаганьне за зямлю, дзякуючы цяжкому нашаму палітычнаму палажэньню, павінна адбывацца ў двух кірунках. У кірунку нацыянальным і сацыяльным. Мы павінны змагацца за тое, каб зямля, перашла ад абшарнікаў да працоўнага сялянства бяз выкупу і выплаты і каб папала яна ў рукі беларускага сялянства, а не якіх небудзь асаднікаў ды калянiстых. Падзел зямлі можа вырашыць толькі само сялянства, цераз свае самаўрадавыя камісіі. Але-ж на гэта трэба, каб Беларускі Народ быў гаспадаром сваей старонкі. Гэта прывіталі прысутныя на Зьездзе, але-ж прадстаўнік ураду, як гэта, так і іншыя славечкі натаваў да кніжачкі для справы.

Адносіны да іншых беларускіх партыяў зрэфэраваў б. пасол Сабалеўскі. У сваім дакладзе пав. дакладчык адзначыў, што варожыя беларускаму нацыянальнаму руху дзейнікі будуць імкнуцца ўсімі спосабамі разьбіць выбарны фронт. Ужо ў мэтах гэтага паўстаюць розныя групкі, якія і робяць атаку на беларускі фронт, у мэтах яго разьбіваньня і паралiжаваньня. Перамога залежыць ад самога беларускага народу, ад яго сьведамасьці сваіх правоў і абавязкаў.

Па дакладах б. паслоў Ярэміча і Сабалеўскага прынята адносная рэзалюцыя, якую падаём ніжэй.

Адным з сяброў Зьезду была запрапанабана прыняць рэзалюцыю аб амнэстыі для палітычных вязьняў. Перад галасаваньнем рэзалюцыі прадстаўнік камісара ўраду пагразіў, што, калі ўспомненая рэзалюцыя будзе прынята, дык ён разьвяжа зьезд. Пасьля гэтага п. Ярэміч выступіў з прамоваю, у якой зазначыў, што першым абавязкам тых паслоў, якія пройдуць у Сойм, павінна быць—дамаганьне амнэстыі.

У часе дакладу б. пасла Сабалеўскага адзін з прысутных запытаўся яго, ад якое партыі п. Сабалеўскі выступае. Пры гэтым, калі п. Сабалеўскі сказаў, што яго партыі няма (як ведама п. Сабалеўскі належаў да Грамады, якая цяпер ужо зьліквідавана), дык той самы, хто задаваў пытаньне зрабіў закід п. Сабалеўскаму ў партыйнай здрадзе. Уся саля зацікавілася гэтым, думаючы Бог ведае аб чым. Але-ж выясьнілася, што грамадзянін, які зрабіў закід п. Сабалеўскаму ў здрадзе, лічыць гэтую здраду ў факце адыходу п. Сабалеўскага ад Грамады. Пасьля гэтага стала ясным, што той грамадзянін робячы закід, сам памыліўся, бо Грамада не істнуе, а знача няма каго здраджаць. Цяпер, былыя сябры Грамады як ведама зьяўляюцца пераважна безпартыйнымі, якія могуць кіравацца ў далейшым згодна сваіх асабістых перакананьняў.

Наступны дакладчык гр. А. Більдзюкевіч у сваей прамове зрабіў некаторыя самыя важнейшыя высьвятленьні, з боку практычнага кіраўніцтва, аб выбарным законе.

Пратаярэй Голад, як праваслаўны духоўнік - Беларус зазнаёміў прысутных, што ствараецца нейкае праваслаўнае аб'яднаньне, якое блізкае па назве да Беларускага Праваслаўнага Аб'яднаньня. Але-ж тое аб'яднаньне, якое твораць вышэйшыя прадстаўнікі афіцыяльнага праваслаўя, зьяўляецца варожым да беларусаў. У тое аб'яднаньне ўваходзяць вядомы ўгадовец, русіфікатар мітр. Дзяніс і пералёт — сюды - туды — арх. Піліп Марозаў.

На заканчэньне Зьезд зацьвердзіў Беларускі Цэнтральны Аб'яднаны Выбарны Камітэт у гэтакім складзе: б. паслы Рагуля, Ярэміч, Сабалеўскі, б. сэн. Багдановіч, прот. Голад, гр. гр. Каруза, Стэповіч, Пазняк, Куніцкі і д-р Туронак.

Пад зыкі Беларускага Нацыянальнага Гымну „Ад веку мы спалі..." Зьезд выбаршчыкаў зачыніўся а $7^{1}/_{2}$ гадз. вечарам.

Пад канчатак Зьезду зьявілася яшчэ некалькі прадстаўнікоў Зьезду, якія спазьніліся з прычыны чугункавага руху.

**Мэтода.**

---

трэбны нумар на кавалку чыстай паперы. Акрамя цыфры на картачцы нічога больш пісаць ня трэба.

Трэба памятаць, каб папера была абавязкава белая, чыстая і бяз розных іншых дапісак, літараў і таму падоб.

Картачку з напісанай цыфрай ложыць у той канвэрт, які атрымае выбаршчык ад камісіі. Калі-б хто хацеў укінуць у скрынку картку ўложанаю ў канвэрт бяз казённай пячаткі, дык камісія палічыць тую картку няважнаю. Аддаўшы канвэрт з карткаю старшыні камісіі, можна іьсці да хаты. Выбаршчык мае права свой нумар не паказываць нікому.

Выбары маюць вялікае значэньне, дык дзеля гэтага трэба іьсці і галасаваць, кожнаму, ды ўсякаму, ня зважаючы на няпрыемную пагоду ці малое недамаганьне або якую іншую перашкоду. У гэты дзень важацца лёсы нашай будучыны. Гэтым днём будзе нядзеля 4-га сакавіка. Выбары ў Сэнат адбываюцца ў наступную нядзелю пасьля галасаваньня ў Сойм і па такіх самых правілах, з тэй толькі розніцай, што выбаршчыкі ў Сэнат павінны мець роўных 30 гадоў і пражываць у дадзеным выбарчым вокругу ня менш як 1 год перад агалашэньнем выбараў. Выбраная ў Сойм асоба павінна мець ня менш 25 поўных гадоў, у Сэнат 40. Вот гэта галоўныя правілы, каторых трэба прытрымлівацца ў часе выбараў.

**К. Юхневіч.**
Віцэ-Старшыня Цэнтр. Каміт. Беларускага Сялянск. Саюзу.

## Рэзалюцыі Зьезду выбаршчыкаў

(прынятыя 28 сьнежаня 1927 г.).

### Рэзалюцыя I.

Зьезд скліканы Бел. Ц. Аб. Выб. Кам. прымае да ведама даклад аб працы першага Беларускага парлямантскага прадстаўніцтва — Белар. Пасольскага Клюбу і выражае падзяку ўсім Беларускім паслом, якія вялі змаганьне за правы і інтарэсы Беларускага Народу.

### Рэзалюцыя II.

Дзеля таго, што як польскі выбарны закон, так і агульнае палажэньне нацыянальных меншасьцяў у Польскай Дзяржаве прымушае нас, Беларусаў шукаць на выбары супольнага фронту з іншымі нацыянальнымі меншасьцямі, зьезд Белар. Аб'ядн. Выбарн. Камітэту 28-га сьнежня 1927 г. пастанаўляе:

Заклікаць усё Беларускае грамадзянства і ўсе неўгадовыя партыі аб'яднацца каля Белар. Цэнтр. Аб'ядн. Выб. Кам. і іьсці на выбары ў Сойм і Сэнат адным супольным сьпіскам Блёку Нацыянальных Меншасьцяў.

### Рэзалюцыя III.

Уважаючы, што настаў ужо час калі і Беларуская жанчына павінна прыняць чынны ўдзел у змаганьні за правы Беларускага Народу і бачучы, што сярод жанчын Беларусак, ужо паўстала думка аб такой працы, што даказвае хоць-бы зьезд жанчын Беларусак Валожынскага павету, зьезд Белар. Аб'ядн. Выб. Камітэту заклікае ўсіх жанчын Беларусак споўніць свой грамадзкі абавязак — падтрымаць працу Белар. Аб'ядн. Выбар. Камітэту і галасаваць за кандыдатаў выстаўленых гэтым Камітэтам. Са свайго-ж боку Камітэт пастараецца, каб у будучы польскі парлямант увайшлі так-жа прадстаўніцы ад Беларускіх жанчын.

---

*Сяляне! Арганізуйцеся, у арганізацыі — сіла!*

---

# З жыцьця Польшчы.

### Скасаваньне даразных судоў.

Кожны год, 1 ліпеня і 1 студзеня распачынаўся шасьцімесячны тэрмін істнаваньня даразных судоў у былым расейскім заборы. Распараджэньне гэтае зацьверджавалася Радаю Міністраў.

Як даведываемся з польскіх газэтаў, дык ужо ад 1 студзеня 1928 году, даразных судоў ня будзе. Усе даразныя справы, якія ня будуць разгледжаны да 1 студзеня 1928 г. — падлягаюць разгляду звычайных судоў.

### Два злоты папяровыя ня будуць.

Міністар Скарбу выдаў распараджэньне аб тым, што папяровыя грошы вартасьці па 2 злоты з датаю 1925 году трацяць сваю моц з днём 31 сакавіка 1928 году. Гэтыя білеты будуць абменівацца ў Польскім банку да 31 сакавіка 1930 году.

### Ахвіцэрызацыя... пасадаў.

У „Dz. U. R. P." надовячы паказалася распараджэньне Рады Міністраў аб абавязках і правох польскіх ахвіцэраў. Вынікам гэтага распараджэньня ўсе ўлады, дзяржаўныя і самаўрадовыя ўрады, дзяржаўныя і самаўрадавыя прадпрыёмствы і прадпрыёмцы, каторым урад дае дапамогу павінны прымаць на службу і пасады пры аднолькавых кваліфікацыях перадусім кандыдатаў з пасярод рэзэрвовых і адстаўных ахвіцэраў.

### Вымена вязьняў паміж СССР. і Польшчаю.

28 сьнежня, у Маскве падпісаны пратакол умовы аб вымене палітычных вязьняў паміж СССР. і Польшчаю.

Згодна гэтае ўмовы, СССР. павінен выдаць Польшчы — 32 асобы, а Польшча — 9.

Гэтая вымена ёсьць апошнім актам яшчэ з забавязаньняў 1923 году.

### Плата за маёвы пераварот.

Абвешчана распараджэньне Прэзыдэнта Рэспублікі з дня 17 сьнежня 1927 году ў справе дапамогаў цывільным асобам, каторыя пацярпелі ў часе дзейнасьці польскага войска 12—15 травеня (мая) 1926 году. Дапамога гэтая датычыць тых асабоў, каторыя страцілі 25% здольнасьці да працы ўвыніку скалечаньняў, а такжа сваяком тых асобаў, каторыя згінулі або памёрлі з прычынаў зьвязаных з маёвымі падзеямі.

Як бачым, урад Пілсудскага ня хоча быць у даўгу...

